# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkaušćyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 10 (545) — Нядзеля, 5 сакавіка 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Новая савецкая параза

Заходняя прэса, а зь ёю разам і мы ў нашым апошнім артыкуле («Новая савецкая афэнзыва», «Бацькаўшчына», № 9, за 26. 2. 1961) выказвалі думку, што Рада Бясьпечнасьці ня будзе мець магчымасьці стварыць умоваў дзеля пазытыўнага заканчэньня кангалянскага крызісу, бо ейныя пастановы будуць параліжавацца савецкім вэто, і што, у сувязі з гэтым, у справе Конга, будзе хутка скліканая надзвычайная пленарная сэсія Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў. Тымчасам-жа 21 лютага Савецкі Саюз пацярпеў поўную паразу на паседжаньні Рады Бясьпечнасьці, што навет не адважыўся скарыстаць із свайго права вэта супраць прынятай у справе Конга пастановы, дыямэтральна супрацьлежнай да аднагалосна адкінутага савецкага праекту.

Як ведама, савецкі праект, высунуты перад Радай Бясьпечнасьці 15 лютага, патрабаваў у ультыматыўнай форме адкліканьня Гамэршыльда із становішча генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў, як «арганізатара забойства Люмумбы», спыненьня на працягу аднаго месяца ўсякай акцыі ЗН у Конго й адкліканьня адтуль збройных сілаў ЗН, арыштаваньня й прыцягненьня да судовай адказнасьці прэм'ера правінцыі Катангі Чомбэ й галоўнакамандуючага кангалянскіх войскаў генэрала Мобуту ды разбраеньня падпарадкаваных яму войскаў, разбраеньня й выгнаньня з Конга ўсіх Бэльгійцаў, асуджэньня Бэльгіі, як агрэсара, і налажэньня на яе міжнародных санкцыяў.

За гэтую савецкую рэзалюцыю ў Радзе Бясьпечнасьці галасаваў адзін толькі Савецкі Саюз у васобе свайго дэлегата Зорына. Задзіночаная Арабская Рэспубліка й Цэйлён паўстрымаліся ад голасу, а восем астальных сяброў Рады Бясьпечнасьці, сярод якіх бальшыня афра-азіяцкіх дзяржаваў, галасавалі супраць.

Затое была прынятая 9-цю галасамі пры двух, што паўстрымаліся ад голасу (Савецкі Саюз і . . . Францыя!), г. зв. «афра-азіяцкая» рэзалюцыя, якая была запрапанаваная Лібэрыяй, Цэйлёнам і Задзіночанай Арабскай Рэспублікай пры станоўчым падтрыманьні іншых афра-азіяцкіх дзяржаваў, што да Рады Бясьпечнасьці не належаць. Гэтая рэзалюцыя, наўсуперак рэзалюцыі савецкай, дае яшчэ большыя паўнамоцтвы Задзіночаным Нацыям і Гамэршыльду й патрабуе ад Задзіночаных Нацыяў больш узмоцненай акцыі ўлучна з ужыцьцём мілітарнае сілы дзеля спыненьня дамашняй вайны й навядзеньня парадку ў Конго.

Прыняцьце гэтае рэзалюцыі правільна расцэньваецца, як бліскучая перамога заходняй палітыкі ў справе Конга, дасягнутая дзякуючы афра-азіяцкім дзяржавам, і адначасна, як бессаромная параза савецкай палітыкі,ськіраванай супраць Захаду, Задзіночаных Нацыяў і іхнага генэральнага сакратара Гамэршыльда. Той факт, што Саветы, наўсуперак агульным спадзяваньням, ня выкарысталі супраць гэтае рэзалюцыі свайго права вэта, павялічае яшчэ больш эфэкт заходняе перамогі.

Два аснаўныя фактары былі прычынай, што справа атрымала гэткі абарот у Радзе Бясьпечнасьці. Першым фактарам было яснае асьветчаньне прэзыдэнта Кэнэды 15 лютага, у якім ён выступіў у вабароне акцыі Задзіночаных Нацыяў у Конга й нядвузначна прыгразіў, што аднабаковае збройнае ўмяшаньне Савецкага Саюзу ў Конго пацягне за сабой збройную інтэрвэнцыю Амэрыкі. Адварот Саветаў перад гэтай пагрозай — гэта найлепшы довад, якой мовай трэба гаварыць з Савецкім Саюзам. Ня менш важным фактарам была й станоўчая пазыцыя афра-азіяцкіх дзяржаваў, якія выступілі супраць савецкіх дамаганьняў і выказаліся за павялічэньнем паўнамоцтваў Задзіночаных Нацыяў у Конга, як адзіна здольных навесьці парадак.

Гэта была другая з чаргі балючая параза Савецкага Саюзу ў ягонай кампаніі супраць Задзіночаных Нацыяў і за перацягненьне на свой бок афра-азіяцкіх дзяржаваў у савецкай міжнароднай палітыцы.

Першая параза Савецкага Саюзу, як ведама, мела месца на апошняй пленарнай сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН восеняй мінулага году, калі Хрушчоў асабіста разыграў неспатыканую ў міжнародных дыпляматычных дачыненьнях авантуру, стукаў кулакамі й вымахіваў чаравікам, спадзяючыся нахабствам і пагрозамі разбурыць сыстэму Задзіночаных Нацыяў і перацягнуць на свой бок афра-азіяцкія дзяржавы. Аднак пленарная сэсія ЗН у верасьні мінулага году аднагодна адкінула ўсе дамаганьні Хрушчова й абясьпечыла перамогу Захаду, Задзіночаных Нацыяў і асабіста Гамэршыльда.

Сяньняшняя-ж перамога Захаду зьяўляецца яшчэ больш вымоўнай, бо прынятая «афра-азіяцкая рэзалюцыя» ня толькі пакідае статус кво, ці, іншымі славамі, адкідае ўсе савецкія абвінавачваньні й дамаганьні, але навет прызнае Задзіночаным Нацыям яшчэ большыя паўнамоцтвы, чымся яны мелі раней.

Гэтая бясспрэчная й з палітычнага [illegible] вельмі важная перамога Захаду яшчэ не абазначае, што скамплікаваная сытуацыя ў Конго будзе хутка й лёгка разьвязаная. Апошняя пастанова Рады Бясьпечнасьці ўсяго толькі вызначае адзіна правільны кірунак у шуканьні разьвязкі кангалянскага пытаньня, але яго яшчэ не разьвязвае. Усе цяжкасьці яшчэ наперадзе. Савецкі Саюз яшчэ ня раз пастараецца выкарыстаць гэтыя цяжкасьці й эвэнтуальныя няўдачы, каб усю віну за іх зваліць на Захад, а самому выступіць у ваблуднай ролі адзінага абароньніка экскаляньяльных народаў. Гэткія й ім падобныя перашкоды ў працэсе ўнармаваньня палітычнага й эканамічнага жыцьця ня толькі ў Конго, але й на прасторы ўсяго чорнага кантынэнту бясспрэчна будуць мець месца.

І ўзапраўды, на новы савецкі дыпляматычны манэўр доўга чакаць ня прыйшлося. Усяго за некалькі дзён пасьля савецкае няўдачы ў Радзе Бясьпечнасьці Хрушчоў выслаў індыйскаму прэм'еру Нэру афіцыяльны ліст, копіі якога адначасна пераслаў да ведама 65-ём дзяржавам Афрыкі, Азіі, Эўропы й Лацінскай Амэрыкі.

Навязваючы да савецкай кампаніі супраць Задзіночаных Нацыяў і Гамэршыльда на сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН у верасьні мінулага году, Хрушчоў у сваім лісьце паўтарыў сваё ранейшае дамаганьне адкліканьня Гамэршыльда із становішча генэральнага сакратара ЗН, які, як ён цьвердзіць, абараняе толькі інтарэсы каляніяльных і імпэрыялістычных дзяржаваў і дапамог «нападу бандытаў на Люмумбу». Апрача гэтага, паўтарыў Хрушчоў і ўсе іншыя дамаганьні, якія былі сфармуляваныя ў вадкінутай 15 лютага Радай Бясьпечнасьці савецкай рэзалюцыі ў справе Конга.

Але ў лісьце Хрушчова ёсьць і нешта новае, што заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Хрушчоў заклікае індыйскага прэм'ера Нэру праявіць актыўнасьць у стварэньні камісіі ў справе Конга, зложанай з прадстаўнікоў афрыканскіх дзяржаваў, якая супольна зь «легальным» пасьля сьмерці Люмумбы ўрадам Гізэнгі й пры падтрыманьні ўсіх «прыязна настроеных» нацыяў, павінна была-б заняцца ўстанаўленьнем супакою, адзінства, парадку й незалежнасьці Конга. Затое Задзіночаныя Нацыі павінны як найхутчэй спыніць «гэтак званыя» свае апэрацыі ў Конга, каб гэтым самым даць кангалянскаму народу магчымасьць свае нутраныя справы ўзяць у собскія рукі. Іншымі словамі, гэтая новая прапазыцыя Хрушчова абазначае, што Савецкі Саюз, пасьля поўнага правалу сваей акцыі на форуме Задзіночаных Нацыяў, наважыў цяпер паставіць пытаньне Конга паза Задзіночанымі Нацыямі й ініцыятыву ў гэтай справе запрапанаваў узяць на сябе Індыі, як найвялікшай і найбольш аўтарытэтнай нэўтральнай дзяржаве.

Нельга думаць, каб Нэру, які да гэтага часу моцна падтрымліваў акцыю Задзіночаных Нацыяў у Конга, і тыя дзяржавы, якім Хрушчоў пераслаў копію свайго ліста, у значнай сваей колькасьці адобрылі новы савецкі праект. Тым ня меней, гэты новы хрушчоўскі

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Хто вінаваты?

Адразу пасьля пераняцьця ўлады нацыянал-сацыялістымі ў Нямеччыне, новы рэжым пачаў мэтанакіраваную акцыю апаноўваньня ўсіх галін жыцьця — ня толькі палітычнага, але й навуковага, эканамічнага, грамадзкага, культурнага, рэлігійнага. Неўзабаве ўсе гэтыя галіны былі пад кантролем рэжыму. І вось пачалося выхоўваньне «новага чалавека» — нацыстага. Усьцяжнай, бесьперапыннай прапагандай Немцам убівалі ў галовы, што яны — нацыя на найвышэйшай ступені разьвіцьця, і таму ёй з поўным правам належыцца вядучая роля ў сьвеце — гэта, маўляў, закон прыроды.

Гэтая тэза, падмацоўваная псэўданавуковымі аргумантамі, хутка прывяла да злачынных высноваў: Немцы — гэта «звышлюдзі», «обэрмэншы»; яны маюць права рабіць усё, — уключна з народазабойствам, — калі гэтага вымагаюць інтарэсы «Райху».

На п'едэстал быў узьведзены шавінізм у найбольш дзікай форме. Моладзь выхоўвалі ў духу нянавісьці й пагарды да «унтэрмэншаў». І, зразумела, такое выхаваньне прынесла плады, якія, падчас вайны, балюча адчуў на сабе і беларускі народ.

Ня гледзячы на ўсе высілкі, бальшавікі ня здолеюць затаіць перад гісторыяй таго факту, што Беларусы ў сваёй пераважнай масе спачатку разглядалі Немцаў, як вызвольнікаў ад нялюдзкага бальшавіцкага рэжыму. Але нацыстыя выявіліся гэткімі-ж нялюдзкімі; падчас вайны гэта было відаць асабліва яскрава: яны рабілі адкрыта тое, што бальшавікі на працягу дзесяцігодзьдзяў стараліся, на колькі гэта было магчыма, хаваць ад людзкога вока. У Савецкім Саюзе садыстыя раскашаваліся ў засьценках НКВД. Падчас вайны, гадунцы нацыстаўскага рэжыму раскашаваліся адкрыта.

Беларусы — і ня толькі Беларусы — апынуліся паміж двух агнёў. Гаспадаром палажэньня стаўся інстынкт самазахаваньня. Гэта ім, а не «савецкім патрыятызмам» кіраваліся людзі, якія, пачынаючы ад 1942 году, пачалі напаўняць беларускія лясы. Гіроніяй лёсу сваёй злачыннай палітыкай нацыстыя выдатна спрычыніліся да захаваньня бальшавіцкага рэжыму на тэрыторыі СССР.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя — і тыя паміж ёй, што ў свой час спадзяваліся ад Немцаў зразуменьня і навет падтрымкі беларускага нацыянальнага, ужо ў сваім корані антыбальшавіцкага руху — хутка ўсьведамілі сабе ўсю трагічнасьць палажэньня. І яна дзеіла так, як дыктавала ёй сумленьне: намагалася бараніць насельніцтва ад разгулу як карычневых, так і чырвоных — у гэтым выпадку партызанаў, якія пад кіраўніцтвам закінутых Масквой агентаў спрычыніліся да зьнішчэньня цывільнага насельніцтва ня менш, як і гітлераўцы — з мэтай правакацыі. Гаворачы аб нацыянальнай інтэлігенцыі, мы, зразумела, ня маем на ўвазе нешматлікіх авантурыстых, якія хацелі толькі пагрэць рукі пры чужым няшчасьці; як і ў кажным народзе, былі ў нас і такія.

Дзеля чаго мы ўсё гэта згадвалі? Не бяз прычыны.

Вайна скончылася. Тыя кіраўнікі нацыстоўскай Нямеччыны, якія перажылі капітуляцыю, былі суджаныя за злачынствы супраць людзтва. Судзілі іх пераможцы — у тым ліку і прадстаўнікі бальшавіцкага рэжыму, які сам на сумленьні мае ня менш, чымся мелі падсудныя нацыстыя.

Ды справа ня ў гэтым. Цяпер, амаль 15 год пасьля капітуляцыі, у сувэрэннай Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы ўсё яшчэ выкрываюць і судзяць былых нацыстаўскіх злачынцаў. Судзяць іх нямецкія суды — бяз усякага уплыву звонку. Судзяць іх за злачынствы супраць людзтва, таксама і за ўдзел у народазабойстве. Судзяць за злачынствы супраць Жыдоў, Палякаў, Расейцаў, Беларусаў, Украінцаў . . . І гэта, паўтараем, 15 год пасьля заканчэньня вайны.

Для тых, хто ведае пасьляваенную Нямеччыну — маем, зразумела, на ўвазе Заходнюю Нямеччыну — гэта зусім натуральна. Цяперашняя Нямеччына мае столькі супольнага зь Нямеччынай Гітлера, зь Нямеччынай узаконенаго шавінізму — колькі вада і агонь. Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка — гэта дэмакратычная дзяржава, якая ўсімі сяродкамі намагаецца канчальна змыць з свайго народу пляму, якую пакінуў на ім гэтак званы «карычневы рэжым». За апошнія 15 год узрасло дэмакратычна выхаванае маладое пакаленьне, якое не адчула, фактычна, усіх жахаў «карычневага рэжыму», а тым больш ня брала ні дабраахвотнага і вымушанага ўдзелу ў робленых тады злачынствах. Часта некаторыя прадстаўнікі гэтага пакаленьня бунтуюцца, калі нехта гаворыць аб «супольнай віне» нямецкага народу. Бязумоўна, яны маюць слушнасьць. Але ў дыскусіях яны, як і ўсе сумленныя прадстаўнікі старэйшага пакаленьня, прызнаюць, што быць хоць-бы бязвольнай прыладай злачыннага рэжыму — гэта азначае быць — прынамся часткова — сувінаватым у злачынствах, учыненых гэтым рэжымам.

Калі нашы чытачы прачыталі ў двух папярэдніх нумарох «Б-ны» артыкулы «Прыяцелям і ворагам пад развагу» ды «Новы нацыянал-сацыялізм» — яны зразумеюць, чаму мы шырэй спыніліся на гэтай тэме. Варта аднавіць у памяці пэўныя мамэнты, каб усьведаміць сабе, што выхоўваньне ў духу «обэрмэншніцтва», у духу шавінізму прыводзіць да злачынстваў. Мала таго — за гэтыя злачынствы нясуць адказнасьць ня толькі тыя, што даюць загады, але й тыя, што ў выніку стаюцца іхнымі бязвольнымі прыладамі. Аб гэтым варта было-б асабліва задумацца Расейцам — як чырвоным, так і белым. Пра гэта мы й пагаворым у нашым наступным артыкуле.

Ул. Неманові

# Хрушчоў апраўдвае царскі каляніялізм

У сваім дакладзе на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі Закаўказьзя Хрушчоў шмат гаварыў аб лёсе народаў Закаўказьзя за часоў царскай Расеі. Із славаў Хрушчова выглядае, што ў тыя часы галоўным ворагам народаў Закаўказьзя быў замежны капітал. Хрушчоў літаральна сказаў: «Вякамі замежныя прыгняталынікі матар'яльна й фізычна зьнішчалі грузінскі, азэрбайджанскі й армянскі народы, распальвалі нацыянальную варажнечу, імкнучыся агнём і мячом замацаваць сваё валадарства, захапіць вялікія й рэдкія багацьці Закаўказьзя . . .»

Хто-ж гэта так рабаваў закаўкаскія багацьці? Як цьвердзіць Хрушчоў, гаспадарамі бакінскай нафты былі замежныя манапалістыя Ротшыльд і Нобэль, капіталісты Мацешаў. Да іх належалі прамысловыя прадпрыемствы ў Батуме. А дзе-ж тады быў царскі каляньялізм, які быў галоўным ворагам паняволеных народаў? — можа нехта папытацца? Аб ім Хрушчоў ня прыгадвае, як быццам-бы ён ня існаваў. Аднак зь гісторыі мы ведаем, што царскі каляньялізм праклаў шлях на Закаўказьзе чужаземнаму капіталу і зь ім цесна супрацоўнічаў.

Хрушчоў таксама прамоўчыў і палітычную ролю царскага каляньялізму на Закаўказьзі. Але-ж таксама ведаем, што закаўкаскія народы, як і іншыя народы царскай імпэрыі ў тыя часы, знаходзіліся ня толькі пад прыгнётам капіталу, але і пад нацыянальным прыгнётам. А ні Ротшыльд, ані замежныя капіталістыя ня былі зацікаўленыя ў дэнацыяналізацыі народаў Закаўказьзя. Але царскі ўрад з усёй энэргіяй праводзіў дэнацыяналізацыйную палітыку і гэта было адным з галоўных няшчасьцяў, якія прыгнечвалі народы былой царскай імпэрыі.

Трэба сказаць, што гэтае яскравае хвальшаваньне гістарычнай праўды, якое дапусьціў Хрушчоў у сваім выступленьні, поўнасьцяй пакрываецца з афіцыйным партыйным тлумачэньнем гэтак званай «ленінскай нацыянальнай палітыкі». Можна дыскутаваць, ці гэтая палітыка была «ленінская», ці «сталінская» — але гэта не зьмяняе сутнасьці справы: бальшавіцкія кіраўнікі сталіся прадаўжальнікамі нацыянальнай палітыкі паняволеньня іншых нацыяў. Ленін усякімі магчымымі сяродкамі ўлучаў розныя нацыянальнасьці ў канглямэрат народаў, якія сяньня завецца СССР. Сталін пачаў у Савецкім Саюзе войстры ўсеагульны курс уніфікацыі й русыфікацыі. Тады пачалося выразнае апраўдваньне царскай палітыкі. Бо ня выпадала-ж гаварыць пра царскае нацыянальнае паняволеньне тады, калі на практыцы царскія мэтады ўжываліся ў яшчэ больш жорсткай форме ў Савецкім Саюзе.

І за часоў Хрушчова нічога не зьмянілася ў практыцы й тэорыі нацыянальнай палітыкі маскоўскіх кіраўнікоў. У тэарэтычным часапісе «Вопросы Истории» ў вапошнія часы вельмі-ж часта падкрэсьліваецца, што галоўнай мэтай камунізму ёсьць ліквідацыя нацыянальных розьніцаў і што гэты працэс адбываецца ў Савецкім Саюзе.

Згодна з гэтым курсам, Хрушчоў у прыгаданым выступленьні сьведама прамоўчыў ганебную гістарычную ролю царскага каляньялізму ды зваліў усю віну за нацыянальнае й сацыяльнае паняволеньне на замежных капіталістых.

Хрушчоў любіць падкрэсьліваць той неаспрэчны факт, што за часы савецкай улады узровень адукацыі народаў СССР значна павысіўся. Але, як выглядае, з гэтым фактам ён ніяк ня хоча лічыцца. І гэта вельмі небясьпечна ў першую чаргу для самога Хрушчова. Нельга адукаваным людзям бесьперапынна паўтараць відавочныя недарэчнасьці не абражаючы іхных пачуцьцяў і не кампрамітуючы самога сябе. Падсавецкія народы добра разьбіраюцца ў тым, хто запраўдны вораг іхных жыцьцёваважных нацыянальных інтарэсаў.

Р. С.

# Пра культурную палітыку Масквы

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Пасьля апублікаваньня пастановы ЦК КПСС «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» праблема «змаганьня» з праявамі нацыянальнага жыцьця ці з так званым «буржуазным нацыяналізмам» нерасейскіх народаў сталася першараднай праблемай Масквы й ейных прыгнятальнікаў на мясцох. У першую чаргу трэба адзначыць, што гэтым пытаньнем заняліся зьезды кампартыяў, якія прайшлі ўва ўсіх савецкіх нацыянальных рэспубліках у пачатку 1960 г. Напрыклад, на зьезьдзе кампартыі Армэніі першы ейны сакратар (былы) А. Таўмасян проста папярэджваў: «Інтарэсы камуністычнага ўзгадаваньня працоўных патрабуюць усебаковага ўзмацненьня змаганьня зь перажыткамі капіталізму, з усялякімі праявамі буржуазнай ідэялёгіі, нацыяналізму й нацыянальнай абмежаванасьці, якія адлюстроўваюцца ў паасобных творах гісторыі, літаратуры й мастацтва».

Тое самае паўтаралася таксама на зьездах кампартыяў Грузіі, Азэрбайджану, Узбэкістану, Беларусі, Украіны, Латвіі, Летувы й г. д. На XI зьезьдзе кампартыі Кіргізіі асаблівая ўвага была зьвернутая на выпадкі ўшанаваньня інтэлігенцыяй рэспублікі ў свой час засуджаных і ліквідаваных пісьменьнікаў, нацыянальных дзеячоў і творчае спадчыны апошніх. Праўда, пад ціскам Масквы й яшчэ да апублікаваньня ўспомненае пастановы ЦК КПСС зь 9 студзеня 1960 году, бюро ЦК КП Кіргізіі 5 студзеня 1960 году пасьпяшыла забясьпечыцца собскай пастановай, у якой яно засуджвае «палітычна шкодныя выступленьні Б. Юнусаліева, А. Токомбаева, К. Юдахіна, Б. Керымжанова, Ш. Уметаліева й К. Малікава» ды «адмяняе свае памылковыя пастановы ў вацэнцы творчасьці Молдо Кылыча й пра партыйную рэгабілітацыю К. Тыныстанава».

У чым-жа тут справа? Як даведваемся яшчэ з аднаго артыкулу, апублікаванага перад зьездам пад назвай «За ленінскую ацэнку культурнай спадчыны», а таксама з зьездаўскіх павучэньняў, вышэй успомненыя кіргіскія літаратары й гісторыкі абвінавачваюцца ў тым, што яны дазволілі сабе зьвярнуцца да культурнае спадчыны паэты дасавецкага пэрыяду Молдо Кылыча й пісьменьніка-навукоўца й нацыянальнага дзеяча ўжо савецкага пэрыяду К. Тыныстанава. Апошні быў зьліквідаваны ў 1933 годзе, а абодвы яны былі рэгабілітаваныя ў 1956 годзе. Такім чынам наступіла паўторнае асуджэньне. Аднак для нас тут важнае тое, што кампартыя Кіргізіі адкрыта прапагуе цяпер паварот да практыкі пачатку 1950 гадоў, калі ўсё нацыянальнае зьмешвалася з балотам, а расейскае, хоць-бы й самае рэакцыйнае, узносілася да дзявятых нябёсаў. Паймена, яна засьветчавае свой паварот да пастановаў у нацыянальным пытаньні ейнага XI пленуму з 1952 году, якія, як ведама, спрычыніліся да новых арыштаў і высылак. да бадай поўнай ліквідацыі нацыянальна-культурнага развою ў нацыянальных рэспубліках, да сьпяваньня «вытрыманых у савецкім патрыятызьме» гімнаў «вялікаму расейскаму народу» й ягонаму «творчаму» й «дзяржаўнаму» «генію». Ня зьдзіўляе таму, што на гэтым зьезьдзе першы сакратар ЦК КП Кіргізіі І. Раззакоў патрабаваў «паслухмянасьці» расейскаму народу, які «нясе кіргіскаму й другім народам шчасьце, перадавую культуру й вялікую будучыню». Молдо-ж Кылыч ці Тыныстанаў заўважалі іншае: расейскі барбарызм, каляніялізм, прынесенае нацыянальнае й культурнае прыгнечаньне.

Апрача пастановы ЦК КПСС «Аб заданьнях прапаганды ў сучасных умовах» пасьлей рэспубліканскім кампартыям былі ўручаныя яшчэ й спэцыяльныя дырэктывы Масквы. Такімі можа быць хоць-бы дырэктыва-інструкцыя ЦК КПСС з 6 травеня 1960 году, высланая для кампартыі Грузіі. Апошняя зьвярнула ўвагу грузінскіх партыйных цівуноў на той факт, што ў Грузіі «шмат» выдаецца мастацкае й гістарычнае літаратуры з нацыянальнага мінулага грузінскага народу. Атрымаўшы гэтыя дырэктывы, кампартыя Грузіі зразу-ж склікае рэспубліканскую нараду працаўнікоў выдавецтваў і навукова-культурных установаў ды намагаецца ўгаварыць грузінскаму народу, што падобная літаратура для яго зусім непатрэбная — гэта «шкодныя й антынародныя перажыткі». Як будзем бачыць далей. былі вынесеныя таксама й канкрэтныя пастановы, зьвязаныя зь «ліквідацыяй гэтага зьявішча». Такія дырэктывы атрымалі таксама й кампартыі другіх рэспублік, пра што сьветчыць артыкул «Правды» — «Больш лепшых кнігаў», а таксама артыкул першага сакратара кампартыі Узбэкістану Ш. Рашыдава, які быў апублікаваны ў 6 нумары часапісу «Вопросы философии» за 1960 год пад назовам «Збліжэньне й росквіт савецкіх людзей».

У сувязі з гэтым узмоцненым паходам Масквы супраць «буржуазнага нацыяналізму», у тым ліку й супраць нацыянальных культураў нерасейскіх народаў, рэспубліканскія партыйцы змушаныя загаварыць цяпер наагул пра неабходнасьць зьнішчэньня хоць-бы найменшых праяваў нацыянальнага жыцьця. Перад такой загрозай стаіць навет і ведамая зьбяднелая й збэшчаная формула ці зразуменьне «нацыянальная форма культуры». Вось што, напрыклад, асьветчыў у гэтым пытаньні сакратар ЦК КП Азэрбайджану Н. Гаджыеў у сваім артыкуле «Інтэрнацыянальнае ўзгадаваньне працоўных»:

«Практыка паказвае, — пісаў ён, — што. паслугоўваючыся агульнапрынятай формулай «сацыялістычная зьместам і нацыянальная формай культура», часта робяць націск не на першую, але на другую частку гэтай формулы, г. зн. высоўваюць на галоўнае месца нацыянальную форму, нацыянальную разнастайнасьць і адкідаюць на задні плян сацыялістычны зьмест. А між тым у гэтай формуле, на наш пагляд, вырашальнай, вызначальнай зьяўляецца ейная першая частка... Няможна дапускаць, каб форма скоўвала зьмест, перашкаджала ягонаму поўнаму выяўленьню; наадварот, сацыялістычны зьмест прадбачвае прагрэсыўнасьць. наватарства формы. Трэба рашуча перамагчы ўяўленьне, быццам «нацыянальная форма» ёсьць штосьці застыўшае, якаясьці нязьменная пасудзіна, у якую ўкладаецца новы, сацыялістычны зьмест. Такі разгляд «нацыянальнай формы», нам думаецца, адкрывае праход, праз які пралазіць усё аджыўшае, адсталае».

А пра што гаворыць разгледжаная вышэй школьная моўная рэформа ды гэтая «сацыялістычная сіла расейскае мовы». Сам Н. Гаджыеў зазначае, што ў сувязі з пастановай ЦК КПСС зь 9 студзеня 1960 году ў Азэрбайджане павялічана прадоўжанасьць радыяперадачаў на расейскай мове, на гэтай мове больш стала чытацца лекцыяў і дакладаў, а рэспубліканскі часапіс «Кірпі» пачаў выходзіць з надпісамі пад ілюстрацыямі на азэрбайджанскай і расейскай мовах. Такім чынам, «сацыялізуецца» й той невялікі нацыянальны скарб, які яшчэ крыху трымаўся ў нерасейскіх народаў — «нацыянальная форма». Ня толькі зьмест, але й нацыянальная форма ці моўная культура нерасейскіх народаў павінна быць расейскай.

(Працяг будзе)

**П. Залужны**

### СЬЦІПЛАЕ ПАЖАДАНЬНЕ

Сьлесар К. Краскін напісаў ліст у менскую «Зьвязду». Яго зьмясьцілі ў нумары ад 28-га студзеня. Нумар гэты, як і кажны іншы, пачынаецца перадавіцай, у якой Краскін, атрымаўшы газэту, прачытае, што партыя вядзе «мудрую дальнабачную палітыку» ды што жыхарству «прададзена тавараў звыш пляну на 1,1 міліярда рублёў». Нумар з гэтаю перадавіцаю канчаецца гэткай красачкай сьлесара Краскіна:

«У магазынах Менску цяжка купіць прыгожы і недарагі сувэнір або падарунак. На мой погляд, ня трэба загадзя камплектаваць падарункі і прадаваць іх у парадку прымусовага асартымэнту. Лепш даць магчымасьць пакупніку самому выбраць тое, што яму падабаецца».

# Русыфікацыя ў сьвятле некаторых савецкіх дадзеных

«Лічбы, якія гавораць самі за сябе» — так можна сказаць пра савецкую выдавецкую статыстыку, апублікаваную ў зборніку «Друк у СССР у 1958 годзе», выдадзеным у Маскве. Яны поўнасьцяй запярэчваюць савецкім цьверджаньням пра разьвіцьцё нацыянальных культураў у СССР. Зь іх вынікае, што там адбываецца не разьвіцьцё нацыянальных культураў, а іхны сталы заняпад, абумоўлены плянавай русыфікацыйнай палітыкай.

Згодна з дадзенымі, апублікаванымі ў гэтым зборніку, з 3.773 пэрыядычных выданьняў, якія зьявіліся ў Савецкім Саюзе ў 1958 годзе, 79,2 працэнта друкаваліся ў расейскай мове агульным тыражом 541,4 мільёнаў экзэмпляраў, 5.7 працэнта ў украінскай мове (тыраж — 26,4 мільёнаў экзэмпляраў), 0,66 працэнтаў у беларускай мове (тыраж — 4,8 мільёна экзэмпляраў), 0,74 працэнта ў узбэцкай мове (тыраж — 8 мільёнаў экзэмпляраў), 0,63 працэнта ў казахскай мове (тыраж — 3,9 мільёна экзэмпляраў). На ўсе 472 часапісы й іншыя пэрыёдыкі часапіснага тыпу, якія зьявіліся на Ўкраіне, паўкраінску, друкаваліся толькі 215, гэта значыць 45 працэнтаў (для параўнаньня — 76.1 працэнта Украінцаў на тэрыторыі УССР).

Яшчэ горш выглядае справа ў Беларускай ССР. У БССР на 82 часапісы толькі 29, гэта значыць 35 працэнтаў (на 80 працэнтаў беларускага насельніцтва) выходзяць у беларускай мове. У Узбэкістане на 113 часапісаў выходзіла 28 паузбэцку — 24 працэнты на 62 працэнты ўзбэцкага насельніцтва. У Казахстане на 113 часапісаў выходзіла 24 у казахскай мове. Русыфікацыя Казахстану зайшла ўжо так далёка, што там цяпер налічваецца толькі 29 працэнтаў казахскага насельніцтва.

Перавага расейскіх выданьняў ў параўнаньні да нерасейскіх стаецца яшчэ больш яскравай, калі ўзяць на ўвагу, што паводля савецкіх-жа дадзеных, у Савецкім Саюзе налічваецца 54,8 працэнта Расейцаў, 17,6 працэнта Украінцаў, 3,7 працэнта Беларусаў, 2,8 працэнта Узбэкаў, 1,6 працэнта Казахаў.

Ня лепш выглядае справа з газэтамі. На ўсіх 7786 газэтаў, у расейскай мове выходзіла 66,8 працэнта. У тыражы гэтая розьніца яшчэ павялічваецца. Тыраж газэтаў, выдаваных у расейскай мове, складаў 81,9 працэнта ўсяго газэтнага тыражу СССР. Працэнт расейскіх газэтаў выдаваных на тэрыторыі нерасейскіх рэспублікаў, крыху меншы, чымся часапісаў, але таксама далёка адхіляецца ад працэнту расейскага насельніцтва ў гэтых рэспубліках. Прыкладам, у Беларусі на 200 газэтаў выходзіць 43 ў расейскай мове (21,5 працэнта), у Украіне — на 1319 газэтаў у расейскай мове выходзіла 380 (28,8 працэнта), у Узбэкістане на 249 газэтаў — 62 у расейскай мове (24,9 працэнта), у Казахстане на агульны лік 412 газэтаў — 257 у расейскай мове (62,3 працэнты). Што да тыражу, дык ён непрапарцыянальна зьменшвае значэньне нерасейскай прэсы ў прыгаданых рэспубліках. У Беларусі, на 279,9 мільёнаў гадавога тыражу, 139,8 мільёна, гэта значыць 49,8 працэнта выдаецца ў расейскай мове. У Украіне 32.9 працэнта прыпадала на расейскую прэсу; у Узбэкістане гэты працэнт складае 31,8, а ў Казахстане 64,2.

Паказчык кніжнага выдавецтва дае падобны малюнак. У 1958 годзе ў Савецкім Саюзе было апублікавана 63 тысячы 641 назва кніг. З гэтага ліку 71 працэнт быў апублікаваны ў расейскай мове, а 26 працэнтаў у іншых мовах Савецкага Саюзу (рэшта прыпадае на мовы іншых краінаў). Яшчэ больш на карысьць расейскай мовы прамаўляе працэнт тыражу кнігаў. 82,7 працэнта тыражу прыпадае на расейскую мову і толькі 14,4 працэнта на нерасейскія мовы народаў Савецкага Саюзу.

Падобна выглядае справа з навадненьнем расейскіх выданьняў кнігаў у паасобных рэспубліках. Возьмем прыклад Беларусі: 59,5 працэнтаў усіх выданьняў друкуецца ў расейскай мове, у той час як беларускае насельніцтва ў БССР складае 80 працэнтаў. Да таго трэба яшчэ дадаць, што цэлы шэраг кнігаў выдаваных пабеларуску, перакладаецца з расейскай мовы.

Якім-жа дысанансам да гэтых голых словаў праўды гучаць цьверджаньні артыкулу ў сёмым нумары часапісу «Вопросы Философии», — артыкулу, напісанага казахскім камуністым Сарсэнбаевам. У артыкуле гэтым , між іншага, гаворыцца: «Найбольшым дасягненьнем нашага народу, як і ўсіх іншых, зьяўляецца ягоная мова ... Мова — гэта галоўны элемэнт нацыянальнай формы культуры. Ад разьвіцьця мовы залежыць доля нацыянальных школаў, літаратуры, тэатру і кіно».

Усе гэтыя тэарэтычныя разважаньні ня маюць ніякага значэньня, калі ўзяць на ўвагу абсалютнае пагарджаньне нерасейскімі мовамі ў Савецкім Саюзе — пагарджаньне, практыкаванае крамлёўскімі валадарамі, якія пасьлядоўна праводзяць русыфікацыю нерасейскіх народаў. Пра гэта гавораць пададзеныя намі вышэй статыстычныя лічбы.

**С. М.**

# Новая савецкая параза

**(Заканчэньне з 1-ай бачыны)**

манэўр выразна паказвае, што Савецкі Саюз сваё змаганьне із Задзіночанымі Нацыямі будзе цяпер весьці па дзьвюх лініях: як і дагэтуль, па лініі Задзіночаных Нацыяў, гэтак і вонках Задзіночаных Нацыяў.

Але й тут спаткала Хрушчова прыкрая няўдача, якой, хіба, не спадзяваўся й ён сам, бо інакш не пасылаў-бы свайго ліста індыйскаму прэм'еру й 65-цём шэфам іншых дзяржаваў. 27-га лютага Нэру, выступаючы перад парлямантам у Нью Дэлі, заняў выразна нэгатыўнае становішча да новай прапазыцыі Хрушчова. Індыйскі прэм'ер сьцьвердзіў, што ў сучасны мамэнт, калі перад Задзіночанымі Нацыямі стаяць дзьве вялікай важнасьці праблемы, як справа Конга й праблема раззбраеньня, запрапанаваная Савецкім Саюзам пастанова «ў пытаньні Гамэршыльда й рэарганізацыі Задзіночаных Нацыяў аказалася-б нешчасьлівай». Нэру падчыркнуў далей: «Савецкі Саюз прадпрыняў азначаныя крокі ў дачыненьні да Задзіночаных Нацыяў і іхнага генэральнага сакратара. З гэтым савецкім становішчам мы ня хочам мець нічога супольнага».

Нэру заявіў, што ў Задзіночаных Нацыях ёсьць «некаторыя мамэнты», якія не падабаюцца так-жа й ягонаму ўраду. Але што датычыцца Конга, дык Індыя падтрымлівае станоўча апошнія пастановы Рады Бясьпечнасьці.

На сяньня нязвычайна важным ёсьць тое, што ўсе дасюлешнія цынічныя савецкія спробы выкарыстаць для сваіх брудных мэтаў шляхотныя ў сваей аснове нацыянальныя рухі маладых народаў пацярпелі поўную няўдачу. Гэтыя спробы разьбіліся аб цьвёрдую пазыцыю Амэрыкі з аднаго боку, і аб такую-ж пазыцыю маладых народаў — з другога. Гэтыя народы зразумелі, што іхныя сьвятыя імкненьні да ўмацаваньня здабытай імі свабоды й дзяржаўнае незалежнасьці зьяўляюцца нясумеснымі з антынароднымі мэтамі камунізму. У гэтым і ўся зарука, што ў змаганьні за афра-азіяцкія народы, вакол якога сяньня канцэнтруецца сьветавая палітыка і ў якім самі гэтыя народы адыгрываюць ролю ня толькі пасыўнага аб'екту, але й актыўнага суб'екту, канчальная перамога астанецца на баку праўды, справядлівасьці й свабоды — на баку вольнага сьвету.

**Язэп Каранеўскі**

# Творы Алеся Гаруна

## Матчын дар

**(Працяг)**

### ВОСЕНСКІ СЬПЕЎ

Пойдзем, каханачка, двое
У лес у густы,
Ціхі, бо скончыў сваё панаваньне:
Жоўкне, галее, мураўка ў ім вяне,
Чарнеюць кусты.

Пойдзем, галубка, пад дубам
Прысядзем, мая.
Гэнам пабачым лістоў ападаньне,
Шэлест іх сумны пачуем, шаптаньне
І звон ручая.

Будзем адны мы на сьвеце
З табою, адны
Тыя, што прыйдуць у часе скананьня
Беднаму лесу сказаць на жагнаньне:
— Да новай вясны!

### ПЕСЬНЯ

Наказала сонца ветру
Перастаці,
Прамаўляла: «Годзе, ветру,
Бусаваці».
Прамаўляла: «Дай жывёле
Адпачынку,
Перастань-жа, ветру, дзьмуці
Бязупынку».
І ўзыйшло ў бліскучай шаце
Залатое
І пястуець любым вокам
Усё жывое.
Не сядзіцца ветру ў хаце
Быстраходу,
Ня уцерпеў, ўзьняўся бурай
Ад заходу.
Карагоды хмар па небе
Панясьліся,
Паліліся зь неба сьлёзы,
Паліліся...
Прамаўляла дзеўча сэрцу —
Ненаглядзе:
«Не хадзі ты вішні есьці
Ў чужым садзе.
Не хадзі к другой, ў залёты
Не ўдавайся,
У другія вочкі любы
Не ўглядайся».
Лугавой лілеяй дзеўча
Расьцьвітала,
Цалавала сваю ўцеху,
Мілавала.
А няверны той удаўся
За другою, —
З млынароўнай пахаджае
Над ракою.
З млынароўнай жарты строіць
Каля млына;
А дзяўчына сохне, вяне,
Як галіна...
Ой, з-за хмарак ясна сонца
Яшчэ ўзыйдзе,
Да дзяўчынкі-ж любы ўвечар
Больш ня прыйдзе.

### ХАЎТУРЫ

Не ў званы у хаўтурныя служка прабіў,
Як хаваў я дзяўчыну, якую любіў.
Не на могілкі людзі каханку нясьлі,
А у цэркву баяры яе павязьлі.
Не халодная зямлёй засыпалася труна,
А другому кахаць прысягалася яна.
Не пяшчаны над ёй вывадзілі капец,
А вясельныя дружкі трымалі вянец.
І ня плакала матка, што ўмерла дачка, —
Цалавала жанулька свайго мужлька.
Не асінавы кол я над ёй забіваў,
А старэнькі дзячок даўгалецьце сьпяваў.

### МЯЦЕЛІЦА

Ой, спалеце, пяруны,
Майго Янку, бо дурны!
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!

Я казала, дый ці раз:
«Прысылай сватоў да нас;
Татка добры, ён аддасьць,
У пасаг цялушку дасьць».

А той Янка, той благі,
Ўсё сьмяецца — «гі-гі-гі».
Да таго-ж часамі кпіць:
«Ну, чаго табе карціць?»

Ой, пралецеся, дажджы,
А ты, Янчка, пажджы:
Учыню табе бяду, —
За нікога не пайду!

### КАЗКА

Што, дзяўчаткі, парабочкі,
Казку вам сказаці?
Ну, якую-ж супраць ночкі
Лепей нагадаці?..

Добра!... Слухайце уважна,
Не перабіваці!
Сядзьце чынам і паважна,
Кіньце блазнаваці!

— За вакенцам вецер сьвішча,
Як ваўчына вые.
Ведзьмы справілі ігрышча,
Ведзьмы маладыя.

Ў хаце цёмна, ціха, смутна,
Цяжка а тужліва;
Уздыхае хтось пакутна,
Нейк сіратліва.

Удовай бабкі сын прыгожы
Сеў каля ваконца,
Чымсьці хворы, спаць ня можа,
Выглядае сонца.

# Да Беларускае Эміграцыі

Беларускі народ знаходзіцца ў каляніяльнай залежнасьці ад маскоўска-камуністычнага рэжыму, які ўсякія праявы чалавечае годнасьці й свабоды ліквідуе пры помачы найжарсьцейшага тэрору, не дае магчымасьці нашаму народу стаць у сваёй абароне ды паказаць сваю крыўду перад вольным сьветам. Таму гэтае пачэснае заданьне ўзяла на сябе беларуская эміграцыя, а ў першую чаргу органы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чале зь яе прэзыдэнтам М. Абрамчыкам.

Дзейнасьць органаў БНР, беларускіх арганізацыяў і культурных установаў выклікала зацікаўленьне вольнага сьвету беларускай праблемай ды прыдбала нам шмат сымпатыкаў, якія шчыра й спрыяльна зразумелі долю нашага паняволенага народу й выказваюць нам свае спачуваньні пры розных нагодах, а ў першую чаргу падчас сьвяткаваньня гадавінаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Шырэйшая дзейнасьць беларускае эміграцыі за апошнія дзесяць гадоў знайшла свой водгук і на Бацькаўшчыне й выклікала зацікаўленьне нашага народу да свае эміграцыі. У савецкай прэсе пачалі зьяўляцца артыкулы, у якіх камуністычныя пісакі пачалі чарніць беларускую нацыянальна-дэмакратычную эміграцыю. Але гэтая іхная акцыя толькі паглыбляе ў нашым народзе ягоныя спадзяваньні на вызваленьне з пад расейска-камуністычнае няволі.

Нашым сьвятым абавязкам зьяўляецца яшчэ шырэй разгарнуць нашую нацыянальна-вызвольную дзейнасьць, ахвяроўваючы, як і дагэтуль, сваю працу ды складаючы грашовыя ахвяры на Фонд БНР. Дасюлешняя праца органаў БНР базавалася на ахвярнасьці, як працы, гэтак і матарыяльных сяродкаў, у першую чаргу сяброў Рады БНР. Але гэтыя сяродкі былі далёка недастатковымі для шырэйшае дзейнасьці. Утрыманьне радыёвых перадачаў Беларускае Сэкцыі Мадрыдзкага Радыя, выдавецкая дзейнасьць і кантакты па лініі вонкавае палітыкі патрабуюць шмат большых матарыяльных сяродкаў.

Бяручы на ўвагу ўсё вышэйшае ды тое, што толькі беларуская эміграцыя зьяўляецца маральна забавязанай бесьперапынна пашыраць нацыянальна-вызвольную дзейнасьць, Прэзыдыюм Рады БНР на сваім паседжаньні 24 верасьня 1960 году пастанавіў абкласьці нацыянальным падаткам на Фонд БНР усю беларускую эміграцыю ў вышыні 50 цэнтаў (прыблізна 15 хвілінаў працы) месячна ад кажнага працуючага. Гэтым даецца магчымасьць кажнаму беларускаму эмігранту хоць мінімальна спрычыніцца да беспасярэднага ўдзелу ў нашай агульнанацыянальнай і вызвольнай дзейнасьці.

Збор нацыянальнага падатку й ахвяраў на Фонд БНР праводзіцца праз Сэктары Рады БНР ува ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі. Сакратарыят Фінансаў Рады БНР спадзяецца, што беларуская эміграцыя глыбака разумее нашыя нацыянальныя патрэбы й будзе ахвотна перасылаць сваю нацыянальную складку скарбнікам Сэктараў БНР.

**Сакратарыят Фінансаў Рады БНР**



# Пачатак кар'еры Канстантына Паклонскага

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

Паклонскі ня быў такім сабе звычайным нікому няведамым шляхцічам, гэта пазволіла-б нам з аднаго боку разумець тую лёгкасьць, зь якой ён здабыў сабе давер цара, з другога-ж боку дало-б нам магчымасьць выясьніць, куды больш важнае пытаньне, а іменна: ці выступленьне Паклонскага на гістарычную арэну было сапраўды толькі вынікам маскоўскай прапаганды, а гэтым самым і асоба ягоная была-б нічым іншым, як толькі звычайнай пешкай, выкінутай, як пена, ваеннай завірухай на ўзьверх падзеяў, ці можа наадварот — К. Паклонскі, як гістарычная асоба, дзеючая й думаючая сваім уласным розумам, ня толькі ня быў ахвярай маскоўскага збаламучаньня, але, карыстаючы з адпаведнай нагоды, сам хацеў абаламуціць Маскву.

Перад намі справаздача з пасольства на Украіну маскоўскага баярына Васіля Бутурліна. 10 студзеня 1654 году паміж маскоўскім паслом і казацкім пісарам Іванам Выгоўскім была гутарка і аб Вялікім Княстве Літоўскім. Іван Выгоўскі паведаміў маскоўскага пасла, што паміж ім, Выгоўскім, і праваслаўнай апазыцыяй у Ліцьве вядзецца ад даўжэйшага часу перапіска, і што калі цяпер у Ліцьве даведаюцца аб пераходзе Украіны пад царскі пратэктарат, дык ці можа ён запэўніць, што гэты пратэктарат будзе расшыраны таксама й на Літву? Бутурлін адказаў, што Выгоўскі сьмела можа запэўніць сваіх прыяцеляў у Ліцьве, што цар падтрымае літоўскую апазыцыю таксама, як падтрымаў і Хмяльніцкага. У часе гэтай гутаркі вынырнула наверх і прозьвішча Канстантына Паклонскага:

«И писарь Иван Выговской говорил, что он великому государю его царскому величеству служить и радеть готов воедушно, а есть де ему в Могилеве повинной благочестивые веры шляхтич Поклонскай, и он де станет и к нему о том писать нарочно. А что тот шляхтич, и могилевцы, и изиных городов против ево письма учнут ведомости какие давать, и он де, Иван, о том станет писать к великому государю к его царскому величеству наскоро.»

Як, бачым з гэтай гутаркі, ведзенай на пяць месяцаў перад пачаткам вайны, К. Паклонскі ня быў усё-ж звычайным шарачковым шляхцічам, выскачыўшым у часе вайны, як Піліп з канапель, ён якраз быў тым чалавекам, які, з увагі на ягоны аўтарытэт сярод той літоўскай апазыцыі, якую казацкія дзейнікі мелі надзею выкарыстаць у надыходзячым канфлікце, быў высоўваны Выгоўскім на становішча літоўскага квіслінга. А з гэтага можна зрабіць вывад, што П. Паклонскі, як палітычны дзяяч, на гістарычную арэну выступіў не ў выніку маскоўскай прапаганды, але ў выніку тых падзеяў, якія адбываліся на Украіне, дзе падчас казацка-польскай барацьбы зарысоўваліся контуры новай дзяржаўнасьці «без паноў і бязь езуітаў». Што праўда, Паклонскі, як сьведамы шляхціч, мог да казацкага руху, як такога, і ня мець вялікага даверу, але дзякуючы хаця-б таму, што на чале гэтага руху стаялі такія шляхцічы, як Іван Выгоўскі, паміж Паклонскім і Выгоўскім не магло быць вялікіх труднасьцяў да ўзаемнага паразуменьня.

Можна думаць і мне здаецца, што я тут ня многа збрашу, калі скажу, што К. Паклонскі, маючы запэўненую падтрымку сярод праваслаўнай шляхты й мяшчанства, меў нейкую надзею пры помачы Выгоўскага й цара зрабіць у Ліцьве некаторыя дзяржаўныя перайначваньні, а пры гэтым і такую самую кар'еру, якую нядаўна на Украіне зрабіў гэтман Багдан Хмяльніцкі.

У сувязі з выконываньнем сваіх пляну, некаторыя сягоньня ставяць Паклонскаму закід, што ён быццам быў дзяцінна наіўным, бо веручы ў дапамогу адзінавернай Масквы, ня ведаў такой простай рэчы, што толькі дурань можа давяраць гэтай Маскве. На мой пагляд, калі наіўнасьць Паклонскага зьвязваць толькі зь ягонай верай у Маскву, дык закід наіўнасьці не зьяўляецца слушным. На аснове практыкі Трыццацігадовай рэлігійнай вайны ў Нямеччыне можна-б было давесьці, што Паклонскі быўбы ня менш наіўным і тады, калі-б ён верыў і ў такую Маскву, якая ня была-б Масквой. Дзеля гэтага, калі ўжо й ставіць Паклонскаму якіясь закіды, дык хіба той, што ён ня выцягнуў адпаведнай навукі з той нядаўнай вайны ў Нямеччыне, якая навочна паказала, што ўнутраныя рэлігійныя сваркі ня можна наагул уцягіваць ніякіх суседзяў, бо і найбольш каханы сусед, пакаштаваўшы смак крыві, лёгка можа ператварыцца ў апакаліптычнага зьвяра. Гістарычнае дасьветчаньне аднак для гістарычных дзеячоў ніколі ня мела вялікай цаны і Паклонскаму бадай ці можна ставіць закіды няведаньня гісторыі, бо людзі наогул, як ведама, вучацца ня зь гісторыі, не на чужых памылках, але на сваіх. Да гэтага гістарычныя прыклады ня могуць мець вялікага ўплыву на палітыкаў і таму, што кажны зь іх, выступаючы на гістарычную арэну, уважае сябе за больш хітрага ад сваіх папярэднікаў. (Калі-ж гаварыць аб людзях сапраўды наіўных, дык да такіх у першую чаргу трэба было-б залічыць тых з нашых гісторыкаў, якія — для прыкладу — пераход літоўскага гэтмана Я. Радзівіла да Швэдаў разглядаюць як «аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага»).

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**Часлаў Будзька**

# Зь беларускага жыцьця

## II-гі Эпархіяльны Зьезд БАПЦ у Аўстраліі

У днях 25 і 26 сьнежаня мінулага году адбыўся ў Адэляйдзе II-гі Эпархіяльны Зьезд Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Аўстраліі.

Дня 25-га сьнежаня Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей у суслужэньні беларускага духавенства пасьвяціў пляц і крыж пад прастол беларускай царквы ў Адэляйдзе, першай у Аўстраліі. Пасьля гэтага адбыўся зьезд прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, які абгаварыў і разьвязаў шмат беларускіх грамадзкіх справаў у Аўстраліі й быў добрым уступам да II-га Эпархіяльнага Зьезду БАПЦ у Аўстраліі, які фактычна адбыўся наступнага дня — 26. 12. 1960 г. і цягнуўся ад гадз. 10 раніцы да 2-ой гадз. ночы.

У зьезьдзе прынялі ўдзел: Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей — Галава БАПЦ, архімандрыт Мадэст, мітрафорны пратаярэй Шчурко, дзіякан Васіль, кароткі час архімандрыт Даніла (Грэк), дэлегаты ад прыходаў БАПЦ у Аўстраліі — у Мэльбурне, Адэляйдзе й Пэрт, упаўнаважаныя дэлегаты беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі — у Мэльбурне, Сыднэі, упаўнаважаныя сябры Эпархіяльнай Управы й запрошаныя госьці з Мэльбурна й Адэляйды. Усіх было 13 дэлегатаў з 19 пастанаўляючымі галасамі й 12 гасьцей з дарадчымі галасамі.

Зьезд не разьвязаў усіх пякучых пытаньняў, ня вынес надзвычайных пастановаў, але на працягу 14-ёх гадзін сваіх нарадаў парушыў і абгаварыў шмат сваіх актуальных справаў, прыняў рад адпаведных пастановаў, а галоўнае — выказаў волю трываньня пры БАПЦаркве й ейнай абароны.

Зьезд разгледзіў сямігадовую дзейнасьць Эпархіяльнай Управы й вынес ёй (чатыром сябром, што асталіся да апошняга часу, і асабліва сакратару) абсалюторыюм з падзякай; праслухаў справаздачу-інфармацыю Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея і справаздачы-інфармацыі з жыцьця прыходаў БАПЦ і беларускіх асяродкаў у Аўстраліі; праслухаў даклад архім. Мадэста на тэму «Царква, Дзяржава й Народ, а сучаснасьць»; разгледзіў бягучыя справы з беларускага аўстралійскага рэлігійнага жыцьця й вынес адпаведныя пастановы; прыняў часовы статут Эпархіяльнай Управы, Рэвізыйнай Камісіі й Эпархіяльнага Зьезду ў Аўстраліі; выбраў новую Эпархіяльную Управу й Рэвізійную Камісію БАПЦ у Аўстраліі.

Галоўныя пастановы Зьезду наступныя:

1. Прызнана канечнасьць поўнага супрацоўніцтва паміж царквою й прыходамі БАПЦ з аднаго боку і беларускімі грамадзкімі арганізацыямі — з другога.
2. Прызнана, што ўсе формы крыжа ёсьць аднолькава важнымі хрысьціянскімі сымболямі, але для Беларусаў найадпавяднейшы (для БАПЦарквы ў Аўстраліі) свой Еўфрасінеўскі крыж.
3. Прызнана канечнасьць арганізаваньня й апякаваньня з боку царкоўных прыходаў беларускімі суботнімі й нядзельнымі школамі, а так-жа зьвяртаньня асаблівае ўвагі на моладзь.
4. Прызнана канечнасьць большага асабістага кантакту паміж беларускімі сьвятарамі й вернікамі.
5. Уважаць, што пабудова беларускай царквы ў Адэляйдзе ёсьць справай ня толькі Беларусаў Адэляйды, але ўсіх Беларусаў у Аўстраліі.
6. Прызнана канечнасьць рэгулярнай і большай матарыяльнай дапамогі для Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея.
7. Пастаноўлена выдаваць свой Эпархіяльны Бюлетэнь.

На заканчэньне астаецца сьцьвердзіць, што Зьезд, паміма розных перашкодаў і малога падтрыманьня з боку перадусім найбольшага беларускага асяродзьдзя ў Аўстраліі — у Сыднэі, адбыўся й заданьне сваё выканаў. Зьезд, хаця прайшоў у даволі напружанай атмасфэры, быў добрай школай для ўсіх удзельнікаў і выявіў актыўнейшых сяброў нашага грамадзтва. Крытыкаў заўсёды шмат, але ахвотнікаў да працы мала. Таму трэба больш цаніць і падтрымліваць тых, якія працуюць і памагаюць, бо ад іх залежыць нашая нацыянальная актыўнасьць на эміграцыі.

**М. Н.**

### НА СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ЛЕТУВІСАЎ

У пяршыню пасьля шмат год Летувісы Таронта, зарганізаваныя ў Фэдэрацыі Летувіскіх Канадыйцаў, запрасілі прадстаўніка Галоўнай Управы ЗБК, у васобе сп. А. Маркевіча, на сёлетнюю ўрачыстую акадэмію, якая адбылася ў нядзелю 19-га лютага ў Таронта, прысьвечаную 43-цім угодкам абвешчаньня Летувы незалежнай дзяржавай 16-га лютага 1918 году.

На акадэміі быў прысутным сын апошняга прэзыдэнта Летувы — адв. Юліус Смэтона, а таксама прысутнічала вялікая колькасьць запрошаных гасьцей з фэдэральнага й правінцыяльнага парлямэнтаў, мэр гораду Таронта й шматлікія прадстаўнікі розных этнічных арганізацыяў, дзе згаданы прадстаўнік Гал. Управы меў нагоду навязаць сувязь і асабіста пазнаёміцца з шматлікімі прадстаўнікамі. Акадэмія закончылася вялікім канцэртам і прайшла зь вялікім посьпехам. Кіраўніцтва Летувіскай арганізацыі запэўніла, што ў далейшым суадносіны паміж нашымі арганізацыямі будуць пастаўленыя на належную вышыню й будзе навязана цясьнейшая лучнасьць, аб чым ужо няраз згадвалася з нашага боку.

**А, —віч**

# Праект «Моўныя рэсурсы Амэрыкі»

Аб праекце «Моўныя рэсурсы Амэрыкі» мы даведваемся з чацьвертага дадатку часапісу «Беларуская Моладзь», выдаванага Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА). Праект «Моўныя рэсурсы» да пэўнай меры цікавы ня толькі для Беларусаў ЗША, але й іншых краёў, перш-наперш англамоўных.

Праект гэты праводзіцца амэрыканскім Міністэрствам асьветы праз штатны ўнівэрсытэт Пэнсыльваніі, што ўзяўся за вывучэньне праблемы: Як захаваць у маладым пакаленьні амэрыканскіх імігрантаў мову й культурную спадчыну, перанятыя ад бацькоў, ды што рабіць, каб памагчы гэтаму перайманьню.

Кіраўнік праекту др. Фішман кажа:

«Урадавыя й асьветныя дзейнікі ЗША апошнім часам падчыркваюць слабое веданьне чужых моваў у амэрыканскім грамадзтве й патрэбу ўзьняць вышэй стан веды ў гэтай галіне. Гэта ненармальна, што край, які вякамі быў за прытулішча для імігрантаў, сяньня стаіць перад праблемай нястачы асобаў з грунтоўным веданьнем розных моваў сьвету. Дагэтуль моўнаму патэнцыялу й творчасьці вельмі лічных этнічных групаў Амэрыкі не надавалася адпаведнае ўвагі з гэтага боку. Выкарыстаньне й разьвіцьцё гэтых рэсурсаў можа пайсьці на карысьць Амэрыцы ў ейных ідэялягічных, стратэгічных, гандлёвых і культурных дачыненьнях. Гэтыя рэсурсы, калі іх належна выявіць ды падтрымаць, могуць таксама забясьпечыць нас настаўнікамі, дараднікамі, студэнтамі й пэдагагічнымі матар'яламі для навучаньня замежных моваў у амэрыканскіх школах, каледжах, унівэрсытэтах.

«Шмат робіцца цяпер, каб узмоцніць і палепшыць навучаньне моваў, якіх Амэрыканцы зусім ня ведаюць. Мала, аднак, а часьцей і нічога ня робіцца, каб захаваць веданьне не-ангельскіх моваў, што ёсьць у мільёнаў Амэрыканцаў у якасьці часткі іхных сямейных традыцыяў. Гэты наш моўны патэнцыял часта бяздумна, ато й падурному аслабляецца настаўленьнямі й дзеяньнямі, што выплываюць зь недацэны або непашаны моваў і традыцыяў розных этнічных групаў Амэрыкі. Наш праект мае наўвеце знайсьці шляхі для выпрацаваньня больш пазытыўнага падыходу да гэтае справы».

Праект «Моўныя рэсурсы» — гэта намаганьне як найдакладней устанавіць патэнцыял валоданьня не-ангельскімі мовамі сярод этнічных групаў Амэрыкі й дасьледаваць працу гэтых групаў у кірунку захаваньня свае моўнае спадчыны. Гэта дасьць магчымасьць выпрацаваць мэтады найтрывалейшага пераховываньня ў маладым пакаленьні не-ангельскіх моваў. З гэтай мэтай будуць зьбірацца дэтальныя статыстычныя дадзеныя пра школьнае навучаньне роднае мовы, пра выдавецкую дзейнасьць, пра радыёвыя й тэлэвізійныя праграмы, накіраваныя на замацаваньне мовы, пра арганізацыйную дзейнасьць этнічных групаў наагул: рэлігійную, грамадзкую, навуковую, літаратурную, музычную, спартовую. Усё гэта — з мэтай выявіць думку кіраўнікоў этнічных групаў, якімі спосабамі найлепш удаецца утрымваць веданьне й зацікаўленьне роднай мовай сярод выраслых ды прышчапляць гэта дзецям. Праект ставіць сабе за заданьне таксама ўстанавіць, у якой меры настаўнікі замежных моваў у амэрыканскіх сярэдніх і вышэйшых школах усьведамляюць сабе карысьць з моўнага патэнцыялу этнічных групаў ЗША ды ў якой меры яны гэтым патэнцыялам карыстаюцца. З другога боку, у пляне праекту ляжыць заданьне дасьледаваць грамадзкі й псыхалягічны аспэкт двумоўнасьці-двукультурнасьці.

Выдавецтва «Беларускае Моладзі», просячы ўсіх Беларусаў Амэрыкі выказацца ў пытаньнях, закранутых праектам, заклікае:

«Беларускія настаўнікі й кіраўнікі арганізацыяў моладзі! Вы, што здабылі дазнаньне ў узгадоўваньні беларускае моладзі на бацькаўшчыне, памажэце знайсьці шляхі, як захаваць мову й культуру бацькоў у маладых Амэрыканцаў — дзяцей эмігрантаў. Калі вам дарагая беларуская культура й родная мова ды калі вы, як новыя амэрыканскія грамадзяне, хочаце зрабіць нашую культурную спадчыну складовай часткай Амэрыкі, вы павінны ўзяць удзел у ўспомненым праекце. Памятайма, што найлепшай падзякай Амэрыцы за ейную гасьцінасьць будзе якраз вашая дапамога амэрыканскім асьветнікам у правядзеньні гэтага праекту. Гэта адначасна паможа азнаямленьню Амэрыкі зь беларускай вызвольнай справай».

Рэдакцыя «Беларускае Моладзі», ведаючы, што некаторым Беларусам, якія маглі-б даць свае парады, цяжка выказвацца паангельску, прапануе свае паслугі й таму прапануе:

1) Каб культурна-асьветныя рэфэрэнты беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў ды кіраўнікі ўсіх беларускіх школаў і моўных курсаў **падалі статыстычныя дадзеныя** аб сваёй дзейнасьці ў кірунку захаваньня й зацікаўленьня роднай мовай сярод выраслых і моладзі ды перасалалі іх на адрыс рэдакцыі «БМ»:

„Byelorussian Youth", 401 Atlantic Ave, Brooklyn 17, N. Y.

Рэдакцыя бярэ на сябе адказнасьць спарадкаваць гэтыя дадзеныя й пераслаць іх арганізатарам праекту. (У рэдакцыі «БМ» можна бясплатна атрымаць і спэцыяльны дадатак, у якім зьмешчаная анкета-апытальнік).

2 Каб усе Беларусы, зацікаўленыя ў захаваньні й пашырэньні веданьня роднае мовы на эміграцыі, выказаліся ў гэтым пытаньні, перасылаючы свае меркаваньні на адрыс рэдакцыі «БМ» (калі яны выказаныя ў беларускай мове) або (калі ў ангельскай мове) на адрыс кіраўніка праекту: J. A. Fishman, Ph. D., Project Director, Language Resource Project, 111 W. 57 Street, New York 19, N. Y.

Ніхто ня перашкаджае Беларусам зь іншых краёў таксама выказвацца ў гэтай справе, каб пазьней таксама скарыстаць з гэтага добрага пачыну амэрыканскага Міністэрства асьветы.

**Я. Запруднік**

## *У паняволенай Беларусі*

### ПАЧАТАК І КАНЧАТАК

Нумар «Літаратуры і мастацтва» ад 31 студзеня г. г. пачынаецца перадавіцай «Няўхільны поступ», у якой гаворыцца аб «датэрміновым выкананьні пляну другога году сямігодкі», што прынесла, быццам, дабрабыт і заможнасьць. Канчаецца-ж той самы нумар артыкулам «Па волі хваль». Вось пачатак гэтага артыкулу:

«Мы абхадзілі менскія, гомельскія, віцебскія магазыны ў пошуках капіравальнай паперы, але ўсюды чулі адзін і той-жа адказ:

— Капіркі няма.

— Калі можна зайсьці?

— У нас яе ў продажы ня бывае...

Так было тры-чатыры гады назад, нічога не зьмянілася й сёньня.»




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**